





К. Лейко.

СНАТВОРНЫ МАК.

Сцэна для дзіцячых тэатроў.



ВІЛЬНЯ.
Друкарня „Артель Печатнаго Дѣла". Телеф. № 198.

1912.

*Адзіная прыжыццёвая кніжка Кандрата Лейкі*




*Выбранае Кандрата Лейкі ў адной кнізе, 2015 г.*

верш "Навальніца" і іншыя творы. Друкуецца пісьменнік таксама ў "Беларускім календары на 1916 год", у "Гомане", "Беларускай думцы", пазней - у "Нашай думцы". Чытаючы прозу Кандрата Лейкі Максім Гарэцкі неяк сказаў: "Надта здольны нашаніўскі апавядальнік".

У сваіх апавяданнях і вершах Кандрат Лейка апісваў унутраны свет сваіх герояў, расказваў пра сацыяльныя канфлікты рэчаіснасці. Творы яго па-свойму філасофскія і псіхалагічныя, а таксама разнастайныя па жанры і тэматыцы. Некаторыя з іх, асабліва вершы, напісаныя з гумарам, з баечнай мараллю, з элементамі выкарыстання фальклору.

У 1912 годзе ў Вільні асобнаю кнігаю выходзіць з друку п'еса Кандрата Лейкі для дзяцей "Снатворны мак", якую ён прысвяціў вясковым дзецям Слонімскага павета. Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

Упершыню п'еса "Снатворны мак" была пастаўлена ў Дзвінску ў 1922 годзе. Паставіў спектакль выдатны артыст, рэжысёр, культурна-грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Латвіі міжваеннага перыяду Язэп Камаржыцкі (1899-1965). Па іншай версіі спектакль мог паставіць і аматар тэатральнага мастацтва Сцяпан Заліўскі. Але хутчэй за ўсё спектакль па п'есе Кандрата Лейкі быў пастаўлены Язэпам Камаржыцкім. Ён у 1910-1920-х гадах працаваў акцёрам у Смаленску. Потым вярнуўся ў родны Дзвінск, скончыў настаўніцкія курсы. У 1922 годзе, як рэжысёр, узначаліў створаную з ініцыятывы Кастуся Езавітава і Эдварда Будзькі беларускую тэатральную трупу Дзвінска. Ставіў беларускія спектаклі ў латвійскім клубе "Саўле". Там, відаць, і была пастаўлена казка Кандрата Лейкі "Снатворны мак".

Аднойчы са слоў краснапольскага краязнаўца Леаніда Васільевіча Лабаноўскага я даведаўся, што ў канцы 1970-х гадоў Краснапольскаму народнаму тэатру пагражала закрыццё. І рэжысёр, заслужаны работнік культуры Беларусі Валянцін Іванавіч Ермаловіч (1925-2004), жывучы ў Магілёве, вырашыў узначаліць гэты калектыў. Працуючы выкладчыкам рэжысуры Магілёўскага культасветвучылішча, ён адначасова ўзваліў на свае плечы і гэтую нялёгкую ношу: рабочыя дні ў вучылішчы, выхадныя - у Краснаполлі. Гутарыў з аматарамі сцэны, пераконваў, вяртаў надзею. Вывучаў здольнасці ўжо вядомых краснапольцам выканаўцаў, адкрываў новыя імёны. А там - адна прэм'ера, другая, трэцяя… Яму не давалі спакою трапныя словы Максіма Гарэцкага, што заселі ў памяці: "Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця…". І ён гукаў. Гукаў праз вобразы герояў сваіх спектакляў паводле п'ес беларускіх драматургаў. А неяк восенню 1987



№ 39 (195) 24 ВЕРАСНЯ 2025 г.
наша СЛОВА.pdf



***Сцэна са спектакля “Снатворны мак” па п’есе Кандрата Лейкі. Дзвінск, 1922 г.***

года мне ў Слонім з Магілёва ад Валянціна Ермаловіча прыйшоў пакет. Адкрываю - а там афіша да спектакля "Снатворны мак", праграмка спектакля, фотаздымкі сцэн з гэтай пастаноўкі і пісьмо. У ім мой старэйшы сябра пісаў, што "Краснапольскі народны тэатр упершыню ажыццявіў пастаноўку спектакля па п'есе твайго земляка Кандрата Лейкі "Снатворны мак".

Я быў вельмі ўзрадаваны і здзіўлены пастаянным імкненнем Валянціна Іванавіча да новага. Ён заўсёды быў у пошуку. На сцэну "выцягваў" не тое, што ўжо было абкатанае іншымі творчымі калектывамі, а нешта новае, забытае, арыгінальнае. Так сталася і з п'есай Кандрата Лейкі "Снатворны мак". Сапраўды, яе ніхто ніколі не ставіў з 1922 года. А ролі казачных герояў ігралі ў гэтым спектаклі дзеці з маладзёжнай студыі народнага тэатра. Да сённяшніх дзён больш ніхто так і не ажыццявіў пастаноўкі "Снатворнага маку".

Краснапольскі народны тэатр Валянцін Ермаловіч узначальваў 14 гадоў. Толькі ён і Язэп Камаржыцкі ажыццявілі пастаноўку п'ескі для дзяцей Кандрата Лейкі. Нават землякі - артысты ДУК "Слонімскі драматычны тэатр" - не ўшанавалі свайго земляка пастаноўкай яго цудоўнай п'ескі.

У 1917 годзе хвароба ног дала пра сябе знаць. А праз год Кандрата Лейку спаралізавала. У чэрвені 1918 года пляменнікі перавезлі яго ў горад Здалбунаў на Валынь да роднага брата Івана.

Пісьменнік моцна перажываў, найперш тое, што быў прыкаваны да ложка і не змог бачыцца са сваім маленькім сынам Віталем, якога часта наведваў на Палтаўшчыне. Ды і матэрыяльнае становішча стала жахлівым. Валынь перайшла пад Польшчу, і пенсію, якую Кандрат Лейка атрымліваў праз Ровенскае казначэйства, палякі адмянілі. Таму апошнія тры гады ў Здалбунаве жыў ён за кошт дапамогі сяброў з Беларусі і Беларускага камітэта ў Варшаве. Землякі клікалі Кандрата дамоў у Гародню альбо на Слонімшчыну, але сіл вяртацца ўжо не было. *"Падацца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі - о, якая б гэта была для мяне радасьць, шчасьце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыцьцё мяне зусім задавіла, а аб Маці-Айчыне магу цяпер толькі ў салодкіх марах успамінаць…"*, - пісаў Кандрат Лейка ў адным са сваіх пісем Лявону Дубяйкоўскаму.

Перад самай смерцю ён паспеў паслаць у Беларускае Навуковае Таварыства восем сшыткаў сваіх твораў з надзеяй, што таварыства выдасць іх асобнаю кнігаю пад загалоўкам "Засеўкі". Пра кніжку ён марыў і ў 1914 годзе, калі атрымаў ліст ад Янкі Купалы, які паведамляў, што Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні хоча выдаць асобнаю кнігаю ягоныя творы.

Але вершы і апавяданні Кандрата Лейкі асобным зборнікам свет так і не пабачылі, а многія з іх проста згубіліся падчас Першай сусветнай вайны. Ды і сам пісьменнік памёр у верасні 1921 года далёка ад роднай Слонімшчыны.

У 2015 годзе мне ўсё ж удалося сабраць пад адну вокладку вершы, апавяданні і п'есу "Снатворны мак" Кандрата Лейкі і выдаць асобнай кніжкай пад назвай "Пан Трудоўскі". Гэта мая даніна светлай памяці перад сваім земляком, беларусам і таленавітым пісьменнікам.



***Спектакль “Снатворны мак”, Краснаполле, 1987 г.***

***Сяргей ЧЫГРЫН.***





*Станіслаў Мараўскі*

# Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні* (1818-1825)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

На першым жа абедзе Браніцкая з найвялікшай пашанай пасадзіла князя Дамініка каля сябе. Але не дбала пра яго атачэнне. Маладыя, ганарлівы і фанабэрысты Чапскі ніколі раней не адчуваў такой пагарды да сябе, бо вымушаны быў сядзець на шэрым канцы. Раз'юшыўся яшчэ больш, калі замест лепшых вінаў, якія падаваліся ганаровым гасцям, з-за сквапнасці гаспадыні, перад ім паставілі нейкія апіўкі. Князь Дамінік бачыў крыўду свайго сваяка і фаварыта і часта паварочваўся ў яго бок, каб паразмаўляць з ім праз увесь стол, так ён супакойваў Чапскага, звяртаў на яго агульную ўвагу і паказваў Браніцкай яе памылку. Але Чапскі з-за гневу ўжо не кіраваў сам сабой, але не страціў пачуцця гумару.

Нарэшце гетманава зразумела сваю памылку, і каб выправіць яе, пачала шукаць нагоды пачаць размову з Чапскім. Убачыла, што яго шклянка стаіць некранутай і сказала:

- Мосцьпане Чапскі, чаму не п'еце віна.

Чапскі скрывіўся і адказаў:

- Не п'ю, мосць дабрадзейка, бо віно занадта кіслае! Хацеў бы папрасіць бутэльку, якая стаіць перад вамі.

Пакрыўджаная да глыбіні душы такім нечакана брутальным і шчырым адказам, гаспадыня вырашыла адпомсціць і зрабіла выгляд, што зусім не чула пра Чапскіх. Яна ўзняла галаву, быццам хоча нешта ўспомніць, і пачала мармытаць:

- Чапскі, Чапскі ... Не прыпомню! Што гэта за васпан Чапскі такі?

Чапскі, яшчэ больш раз'юшаны гэтымі словамі, пры ўсіх гасцях, добра падвысіўшы голас адказаў ёй:

- Здзіўлены, што вы не памятаеце такога прозвішча. Бо не так даўно, мой бацька прысудзіў да смерці мужа пані дабрадзейкі.

Вядома, што гетман завочна быў прыгавораны да шыбеніцы[131].

"Плёткі".

35. а) Я ўжо пісаў пра Караля Чапскага, высакароднага, годнага, сумленнага і дасціпнага чалавека. Усіх моцна забаўлялі яго жарты. Гаварыў праз нос, што таксама дадавала яму арыгінальнасці.

Неяк Караль Чапскі па справах апынуўся ў Менску і палічыў неабходным даць абед усім вяршкам губернскага чынавенства. Прызначыў дзень. Запрасіў шмат асоб. Але з-за сваёй рассеянасці забыўся пра галоўнага - не запрасіў першую асобу - губернатара Ігнаццева[132], чалавека гордага, абразлівага і жорсткага ў адносінах.

Надышоў дзень абеду. Усе прыехалі. Чакаюць губернатара. Толькі тады Чапскі зразумеў, што забыўся запрасіць Ігнаццева і схапіўся за галаву.

- Пачакайце трошкі, на міласць Бога, я еду да яго і прывязу сюды, - сказаў Чапскі гасцям. Прыехаў і патрапіў у момант, калі там сядалі за стол. Ігнацьеў запрасіў яго на абед. Чапскі сеў, але нерваваўся і кожную хвіліну ўскокваў, нібы яго шылам колюць.

Нарэшце, устаў з-за стала і ўсё пераблытаўшы, сказаў здзіўленаму губернатару, як быццам гэта ён сам, а не Ігнаццеў, даваў абед:

- Мой генерал! Прабачце мяне, калі ласка, я паміраю ад сораму за такі ганебны абед! Я не магу зразумець, што там здарылася з маімі кухарамі. Бо, кожныя страва была невыноснай!

б) Усе ведаюць, што на св. Юзафа ў Менску адбываюцца кантракты. Часта менавіта ў гэты дзень пачынаецца вясна і стаяць па-сапраўднаму прыгожыя і цёплыя дні.

Граф Караль Чапскі менавіта ў гэтыя дні быў на кантрактах, займаўся сваімі справамі і насіў ватны сурдут паверх фрака. Але калі ў поўдзень моцна пацяплела, забег дамоў і як непатрэбны цяжар скінуў свой сурдут, пасля чаго выйшаў у горад у адным толькі фраку. Меў справу з Каменскім, жанатым з Тэпяроўнай, дачкой банкіра, якога застрэлілі пасля банкруцтва. Каменскі быў адхілены ад пасады паўнамоцнага прадстаўніка па справах князя Дамініка Радзівіла нібыта за страту даверу і стаў менскім віца-губернатарам. Задуменны Чапскі ідзе да Каменскіх, у прадпакоі здымае фрак замест сурдута, якога на ім ужо не было, і ўваходзіць у салон. Быў даўно знаёмы з Каменскімі, і гаспадар, убачыўшы яго без фрака, пачаў падміргваць жонцы, каб яна не выказвала здзіўлення.

Чапскі ўбачыў пераміргванне сужэнцаў, і гэта яго трошкі зачапіла. Ён пацалаваў ручкі Каменскай (а была гэта адна з самых прыгожых жанчын Літвы, калі потым паехала ў Рым, усе кардыналы з-за яе звар'яцелі) і падышоў да вялікага люстэрка каб папраўіць валасы. Убачыў

* Morawski Stanislaw. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie (1818-1825). Warszawa, 1924. *Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

[131] Гэты анекдот не вельмі праўдападобны, бо ў час, калі Дамінік Радзівіл мог наведаць Браніцкую, гетман быў яшчэ жывы.

[132] Мікалай Ігнаццеў, генерал-маёр, камендант бабруйскай цвердзі, менскі ваенны губернатар у 1812-1815 гг.





сябе ў адной толькі камізэльцы з белымі рукавамі кашулі і ажно прысеў.

Мой бацька неяк расказваў мне пра смерць старога Тэпера пасля банкруцтва. З роспачы, банкір схаваўся ад грамадскасці і сядзеў у зачыненым пакоі ў ніжняй частцы палаца, які ён меў у Варшаве на Мядовай вуліцы. Неяк увечары нехта пачаў яго клікаць з вуліцы: "Пан Пётр! Пан Пётр!". Тэпер, пэўна, пачуў знаёмы голас, адчыніў фортку і высунуў галаву. У той жа момант пачуўся стрэл, якім банкір і быў забіты. Тыя, хто яго ведаў, казалі, што быў ён варты лепшага лёсу.

в) Маючы важны судовы працэс у сенаце, Караль Чапскі быў вымушаны паехаць у Пецярбург. Як звычайна, рабіў там неабходныя захады на карысць сакратароў, обер-сакратароў, пракурораў і ўсіх, каго Бога паслаў. Але для большай упэўненасці хацеў прадставіць сваю справу самому міністру юстыцыі, які тады, напэўна, быў Трашчынскі[133].

Праз свае сувязі і стасункі, якія меў у сталіцы, здолеў патрапіць да міністра, якому было вельмі цікава пазнаёміцца з такім арыгінальным чалавекам. Міністр прызначыў яму гадзінную аўдыенцыю. Наш Чапскі прыязджае, як і належыць, у мундзіры і вялізных батфортах. Міністр прымае яго, саджае побач з сабой і дазваляе расказаць сваю справу. Усхваляваны Чапскі замест сваёй, схапіў са стала насоўку міністра, ужыў яе належным чынам, а потым не маючы куды пакласці, засунуў у халяву батфорта.

Міністр зазваніў у званочак. Увайшоў камердынер. "Падай насоўку", загадаў міністр. Слуга выканаў загад. Размова працягвалася. Раз'юшаны Чапскі выкарыстаў і новую насоўку і міністр быў вымушаны потым некалькі разоў паўтараць загад камердынеру.

Калі Чапскі вярнуўся да сябе, дык знайшоў у халявах шэсць насовак. Можна сабе ўявіць яго стан!

Назаўтра вярнуў міністру насоўкі і яны абодва вельмі пасмяяліся з гэтага.

г) Караль Чапскі расказваў пра сябе наступнае.

Вяртаючыся з падарожжа за мяжу, ён на нейкі час заехаў у Вену, якая яму вельмі спадабалася, бо гэта быў адзіны горад у Еўропе (за выключэннем Італіі), усё насельніцтва якога без выключэння любіла музыку. Чапскі таксама вельмі любіў музыку і вырашыў затрымацца ў гэтым горадзе.

Знайшоў тут лепшага настаўніка музыкі і пачаў браць у яго урокі спеваў. Але паколькі жыў у гатэлі, дамовіўся, каб урокі праходзілі ў кватэры настаўніка. Немец на пачатку з вялікай ахвотай пагадзіўся на гэта, але калі справа дайшла да праверкі голасу, настаўнік пачаў круціць галавой, выказваць менш ахвоты і ў выніку ацаніў свае заняткі ў луідор за гадзіну. Натуральна, ганарлівы вучань пагадзіўся, хоць яму гэта было і занадта.

У выніку дамовы, Чапскі пачаў штодзень браць урокі і плаціў гатоўкай. Прыходзіць на чацвёрты ўрок, і немец кажа яму:

- Ціха, ціха! Пан граф! Калі ласка, прабачце мяне. Я не магу стрымаць слова і адмаўляюся ад кантракту. Вось грошы, якія вы заплацілі за папярэднія гадзіны. Я іх вяртаю ... і не магу вам больш служыць.

- А чаму? - здзівіся Чапскі.

- Ах, пан граф, не будзем пра гэта, - сказаў са слязамі немец, - падчас ўчарашняга ўрока ад вашага голасу ў маёй жонкі зрабіўся выкідыш.

"Плёткі".

36. Пад канец першай чвэрці гэтага стагоддзя ў Ковенскім павеце жыў Швайніцкі, чалавек нябедны, добры і пачэсны, але надзвычай нясмелы, вельмі абмежаваны і казачна даверлівы. Звалі яго "пан суддзя". Не ведаю, ці займаў ён якую пасаду. Мяне заўсёды здзіўляла адна ягоная загана, да якой усе старыя ўжо прызвычаіліся - калі ён рукой рабіў моцныя рухі, рука адразу атрымлівала вывіх у лапатцы. Ясна, што сам Бог даў яму такія слабыя рукі. Яго камердынер адразу ўпраўляў вывіхнутыя члены, і далей усё было добра.

Неяк мой бацька, ковенскі маршалак Францішак Казакоўскі, віца-маршалак Антон Мейр і палкоўнік Бярнард Пянчкоўскі вырашылі на дарозе з Коўні заехаць у Жэймы да годнага і гасціннага графа Міхала Касакоўкага, некалі польнага пісара ВКЛ. Прыехалі. Дзень стаяў пахмурны. Гулялі ў більярд, размаўлялі, жартавалі. Але вялікай радасці чамусьці не было. Прыехаў яшчэ асэсар паліцыі Курдзікоўскі, бывалы стрэляны верабей. А за ім, як быццам выпадкова, прыехаў і начальнік павятовай паліцыі, спраўнік Хлапіцкі, таксама немалы псотнік. Некалькі месяцаў таму ў Цельшаўскім павеце адбыўся па-сапраўднаму дзіўны выпадак. Нейкі студэнт Віленскага ўніверсітэта, тады іх называлі "акадэмікамі", ехаў паштовай брычкай да сваіх бацькоў і з пісталета застрэліў паштовага вазніцу, бо той, нягледзячы на просьбы і пагрозы пасажыра, аб'еўшыся гароху і капусты, увесь час смярдзеў яму пад нос, а ў адказ на грозныя вымовы, толькі гневаўся і бурчэў. Гэта справа, напалову як жарт, а на палову як злачынства, у той момант была галоўнай тэмай размоў у Жэймах. Праз нейкі час тыя, хто стаяў каля акна, убачылі і пазналі цуг Швайніцкага, які ў прыгожай варшаўскай карэце меў фантазію заехаць у суседнія Жэймы.

- Мосці панове, - кажа Казакоўскі, - Да нас едзе добры і прыемны чалавек. Давайце зробім з гэтай гісторыі штуку для Швайніцкага.

І ведаючы суседа, прыдумаў праграму таго, што яны будуць рабіць, размеркаваў ролі і пазначыў шляхі дасягнення мэты.

- Добра, выдатна, - закрычалі ўсе, - але ці можна злапаць яго на такую вуду?

- Убачым.

[133] Дзмітрый Трашчынскі, сын Пракопа (1754-1829), міністры юстыцыі ў 1814-1817 гг.




І вось ужо вазніца стрэліў пугай каля ганка. Усе сустракаюць Швайніцкага як лепшага сябра, ажно шкада на іх глядзець.

- Што здарылася панове? Чаму вы такія сумныя?

- Ат, няма з чаго радавацца, як нам не сумаваць! Добрых часоў дачакаліся. Кожны грэшны чалавек не можа за сябе паручыцца.

- Але ж, раскажыце мне, што здарылася? Я нічога не ведаю.

- Значыць, суддзя, вы шчаслівейшыя за нас. Ці ведаеце вы пра сварку паміж гэтым няшчасным акадэмікам і паштовым вазніцам?

- Ведаю, а што?

- Але з-за гэтага выйшаў царскі ўказ, што той, хто сапсуе паветра - ціха ці голасна, падлягае неадкладнаму арышту, крымінальнаму суду і ссылцы з Сібір, а яго маёнтак канфіскуецца ў казну! Уласна кажучы, паны спраўнік і асэсар прывезлі нам гэты ўказ. Ах!

- Ах, я няшчасны! Што са мной будзе! Я загінуў, як рыжая мыш, загінуў!

- Так, - адказалі ўсе, - І мы загінулі, бо хто ж гэтага не рабіў?

- Вось і ўсё. У мяне і так слабое здароўе, а цяпер пан Кавальскі яшчэ выпісаў парашкі ад гемарою.

І наш Швайніцкі з-за гэтага ўказу зусім упаў духам. Яго пасадзілі за стол. Кавалак хлеба не лез яму ў рот. Пасля вячэры ўсе выйшлі ў сад. Пачаліся іншыя размовы. Падалі венгерскае віно. Думкі павесялелі. Наш суддзя таксама трошкі супакоіўся. Пачалі жартаваць. Але суддзя маўчаў. Тады Казакоўскі схапіў яго і пачаў трасці. І ў тую ж хвіліну ўсе адскочылі ад Швайніцкага і пачалі адыходзіць ад яго ўсе далей і далей... З цяжкім сэрцам пачалі яны вінаваціць яго з злачынстве:

- Пан суддзя! Бяда, вялікая бяда, але што зробіш, такі закон. Не абцяжарвайце сваё сумленне адмовай!

Паліцэйскія журботна падышлі да яго, і выняўшы з-за пазухі паперу, напісаную па-руску, з вялікім смуткам сказалі, што павінны яго арыштаваць. Швайніцкі ледзь не страціў прытомнасць.

- Нашто чорт мяне сюды занёс, - усклікнуў ён.

Пасля доўгіх і камічных перамоваў, паліцыянты нарэшце пагадзіліся маўчаць аб гэтым крымінальным злачынстве - за чатырох коней, карэту і сто дукатаў золатам. І толькі тады раскрылася ганебная змова супраць яго. Усе ад душы пасмяяліся. А добры суддзя, без ціску, назаўтра прыслаў асэсару і спраўніку па пары бочак аўсу для іх коней.

"Плёткі".

37. У 1839 г. мы мелі ў Вільні губернскі соймік. Сярод пытанняў былі і выбары на шэсць гадоў старшыні Цывільнай палаты. Разважлівыя, разумныя людзі прагнулі мець на гэтай надзвычай важнай пасадзе Гаспара Гарноўскага , чалавека шляхетнага, з добрай галавой і вопытам працы на розных адказных пасадах, адначасова чалавека строгага і справядлівага, якога нішто не магло прымусіць змяніць сваё меркаванні. Такія суддзі ў нас не вельмі папулярныя. Таму неабачлівая моладзь стварыла сваю партыю і спадзявалася выйграць справу на сваяцтве і сувязях. У гэтым сэнсе слухаліся свайго правадыра жамойты - калі яны абяруць кагосьці адзін раз, дык потым слепа раз за разам кідаюць за яго шары ў скрыню. Захацелася ім выбраць на гэтую пасаду аднаго з жамойцкіх графаў Плятэраў. Гэтых Плятэраў было ажно сем родных братоў. Вельмі сумленныя, высакародныя, вельмі багатыя - але кожны з іх адзін дурнейшы за другога. Мудрым Саламонам сярод іх быў Стэфан[135], малады чалавек, жанаты з Жабянкай. Усе звалі яго кракадзілам, але ён пра гэта не ведаў. Звалі яго так, бо вярнуўшыся з паездкі ў Егіпет у 1826-м ці 1827-м г., расказаў камусьці, што ездзіў там вярхом на кракадзіле. Можа гэта і выдумалі пра яго, а можа яго дрэнна пачулі. Калі мне ў Пецярбургу адзін з братоў расказваў розныя эпізоды з гэтага падарожжа, я сказаў:

- Пэўна ваш брат апіша ўсё гэта.

- О, несумненна, мой брат неўзабаве будзе сур'ёзна працаваць над гэтым творам і ўжо напісаў прадмову, - адказаў Плятэр.

І менавіта гэтага падарожніка ў Егіпет хацелі мець старшынём Цывільнай палаты. Каб атрымаць лепшыя вынікі галасавання, з'ехаліся ўсе браты.

Разумныя людзі папярэдзілі супрацьлеглы бок, што Стэфан Плятэр не будзе зацверджаны ўладамі, бо не мае юрыдычнай кваліфікацыі, і тады, згодна з законам, мы атрымаем старшыню, прызначанага каронай. Нічога не дапамагло, і абралі Плятэра. Яго не зацвердзілі, і на нашу бяду на гэтую пасаду прыслалі Канапліна. Але справа не пра гэта.

У той час у Вільні лепшым тракцірам быў тракцір Цітыюса. Пасля кожнага пасяджэння сойміка мы кожны дзень хадзілі туды на абед. Мяне здаўна ведалі ў гэтай установе і аднойчы, калі тракцір быў перапоўнены, гаспадыня ласкава пасадзіла мяне за маленькі столік, які накрылі адмыслова толькі для мяне. Злева на канапе сядзеў вядомы сваёй кемлівасцю барон Краўзэ, які бавіўся толькі сігарай, бо даўно ўжо скончыў свой абед. Каля яго стаяў вялікі стол, за якім сядзела і ела шмат людзей.

Спачатку я не звярнуў на іх увагу. Але няспынны шум і смех хутка прымусілі мяне ўважліва паглядзець у бок балбатуноў. Вакол Краўзэ сабралася шмат асоб, у тым ліку і некалькі братоў Плятэраў. Гэтыя Плятэры вельмі нязграбна здзекаваліся з Краўзэ, задаволеныя тым, што ён не абураўся і добра прымаў кожны жарт. Астатнія слухалі. Яго павольнасць, аднак, дзівіла ўсіх, хто ведаў Краўзэ, бо мы ведалі, што ён ёсць самы вялікі вастраслоў. Нарэшце Плятэры стаміліся і сціхлі.

Тады Краўзэ ўстаў са свайго месца, узяў капялюш,

---

[134] Гаспар Гарноўскі, сын Казіміра. Меў срэбны крыж Virtuti militari.

[135] Стэфан Броель-Плятэр, сын Юрыя і Караліны з Гедройцаў, віленскі маршалак у 1858 г., меў не шэсць, а пяць братоў.





кій і пачаў выходзіць, але спыніўся і спытаў ў Плятэраў:

- Скажыце, вы ўжо скончылі?

- Ха, ха, ха! Скончылі!

- Ну тады, - сказаў Краўзэ, - Бяру ўсіх прысутных у сведкі. Прызнайцеся, што Провід бывае часам несправядлівы! Гэтым панам (паказвае ў бок Плятэраў) у самы раз было б па кажуху, і па дзесяць рублёў юргільту[136] ў год, было б ужо занадта. Але пан Бог даў ім па мільёну![137]

І выйшаў.

"Плёткі".

38. Няма на свеце нікога больш ганарлівага чым багаты альбо хутка разбагацеўшы яўрэй. Мы ў Літве гэтага яшчэ не ведаем. Але калі вы хочаце прыгледзецца да іх, калі ласка, наведайце Варшаву.

Варшаўскі Ротшыльд Юзаф Эпштэйн, банкір і вытворца стэарынавых свечак, аднойчы цяжка захварэў. Усе, хто ў Варшаве насіў лапсардак, ці меў да яго нейкае дачыненне, пачалі абмяркоўваць яго хваробу.

У намесніка Каралеўства князя Паскевіча, сярод дворні быў нейкі маршалак двара Камінскі, малы і каржакаваты брухач, працай якога было запрашаць на вячэру, абед, балі, якія даваліся ў замку, даведвацца пра здароўе знаных асоб і яшчэ нешта падобнае. Усе, як шэляг, ведалі Камінскага. Ён, пачуўшы пра хваробу Эпштэйна, кожны дзень на працягу чатырох ці пяці тыдняў на раніцы і ўвечары прыходзіў да банкіра, каб даведацца пра стан здароўя. Яўрэй, упэўнены, што Камінскі ходзіць па даручэнні князя, з-за такога гонару ачуняў хутчэй, чым чакалася, і штодзень даваў Камінскаму па дукату на піва. А калі ўжо цалкам ачуняў і мог выехаць з хаты, парадзіўшыся са сваёй дачкой, з першым візітам паехаў да намесніка, каб выказаць сваю ўдзячнасць. А князь ніколі пра яго нават і не чуў.

Таму Эпштэйн быў моцна здзіўлены, бо князь прыняў яго толькі таму, што меў надзею на нейкі фінансавы праект і шчыра сказаў, што не разумее, пра што ён кажа, бо ён ніколі і не думаў пра здароўе Эпштэйна і цалкам да яго абыякавы. Выкліканы Камінскі не адмаўляў свае візіты да банкіра, але растлумачыў, што рабіў гэта ад сябе і выказаў меркаванне, што толькі празмерная ганарыстасць Эпштэйна магла выклікаць у яго іншую думку.

"Плёткі".

39. ... але нельга сказаць, што ў Неманюнах нічога не адбывалася. Вось паслухай, што тут адбывалася ўсяго тры гады таму.

Усяго толькі некалькі месяцаў пробашчам служыў тут малады чалавек, нейкі ксёндз Орвід, верагодна, народжаны для бяды і няшчасцяў у сваім жыцці. Толькі што ён выйшаў з вельмі цяжкай справы і жорсткага пераследу, як адразу патрапіў у новы.

Старая залежнасць, старая інерцыя, якая так доўга злучала гэты край з занеманскім бокам, напэўна і была прычынай таго, што тутэйшыя і тамтэйшыя святары часта, патаемна прабіраліся цераз мяжу. І рабілі гэта толькі дзеля таго, каб служыць урачыстыя службы ў касцёлах абодвух бакоў бо святы з-за каляндарнай розніцы выпадаюць на розныя дні. І, узаемна абменьваючыся рэлігійнымі пачуццямі, ксяндзы просяць Творцу, каб Нёман больш не быў перашкодай.

Тры гады таму, калі ніхто нават і не падазраваў аб хуткім вялікім узрушэнні народаў, з-за якога кароль Луі Філіп страціў трон, у часы калі ў дзяцей народжаных у 1840-м г., каб паступіць у кадэцкую школу, яшчэ не патрабавалася даведка пра няўдзеле ў паўстанні 1831 г. Аднак, гэта былі часы, калі да нас, невядома для чаго, з-за мяжы прыязджалі эмісары. У вось у тыя часы сумленны пробашч з польскай Аліты кс. Цехановіч узімку цішком прабраўся ў Неманюны, каб адслужыць тут святую імшу. Як на бяду, у гэты момант адбывалася сварка паміж гаспадыняй ксяндза-пробашча і мясцовым галоўным мытнікам. Па старой традыцыі, гаспадыня ксяндза і сам ксёндз, досыць няслушна, лічацца ў нас адным целам. Гэты мытнік, расіянін, пажадаў адпомсціць і ў той дзень быў у касцёле. Ён западозрыў, што невядомы яму ксёндз пахне замежжам. Нічога адразу не вырашыў, аднак загадаў пільна сачыць за мяжой і, каб нарабіць мясцоваму ксяндзу клопатаў, паставіў варту на вуліцах. Ксёндз паўсюдна меў сяброў якія папярэдзілі яго пра насяванне буры. На супольнай радзе было вырашана пераплысць мяжу ўначы. [...]

Але на бяду ноч не была цёмнай. Занёманскі ксёндз апрануў габіт бернардынскага квестара, які таксама гасцяваў тут, і разам з селянінам з плябаніі, праз якога павінен быў вярнуць габіт, пусціўся за Нёман. Але як толькі прайшоў некалькі крокаў па беразе, яго схапілі стражнікі і ў чужым, маскарадным строі, прывялі да свайго начальніка. Каб не крыўда гэтага чалавека, справа закончылася б для духоўнага айца невялікімі пострахам.

Аднак неадкладна былі адпраўлены рапарты, што ў выніку нястомнай руплівасці начальніка мытні затрымалі чалавека, які таемна прыбыў з-за мяжы і вяртаўся назад у дзвюх святарскіх вопратках - ксяндзоўскай сутане і бернардынскім габіце. Гэта выклікае падазрэнне, што гэты чалавек - адзін з тых жудасных эмісараў, якіх марна шукаюць ужо пятнаццаць гадоў. І што мясцовы пробашч таемна хаваў гэтага небяспечнага чалавека ў сваёй плябаніі.

Адусюль, як на які баль, зляцеліся чыноўнікі. Абодвух святароў пасадзілі ў вязніцу, і ніхто не верыў, што гэты невядомы чалавек - пробашч з-за мяжы. І толькі праз год рознага кшталту пакутаў пераканаліся ў праўдзівасці гэтага. [...]

"З кожнай хаткі па селяніну. Ад Мерачы да Коўні".

12 кастрычніка 1849 г.

[136] Юргільт (ад ням. Jahrgeld ) - гадавы заробак, з XVIII ст. зневажальны тэрмін якім называлі грошы, якія плаціў замежны урад т. з. "юргельтнікам" за падтрымку іх інтарэсаў. Юргельтнікамі таксама называлі шляхціцаў, якія прадаліся магнатам і жылі за іх кошт.

[137] Барон дэ Келяс Краўзэ заўсёды вылучаўся сваёй дасціпнасцю, падобна, ён пакінуў у рукапісе свае ўспаміны.





***Часлаў Янкоўскі***

# Вільня ў 1818 - 1825 гадах[1]

Накладам Выдавецкага інстытута ў Варшаве апублікаваны выдатныя мемуары Станіслава Мараўскага, кніга пад назвай "Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні". Гэтая, нядаўна выдадзеная праца, ілюстравана цікавымі і часткова невядомымі раней малюнкамі і мае больш, чым 500 вялікіх старонак.

Хачу даць вам уяўленні пра яе, і, несумненна, настойліва заахвоціць чытальнікаў пазнаёміцца з гэтымі надзвычай цікавымі і красамоўнымі мемуарамі.

Аўтар, Станіслаў Мараўскі, нарадзіўся ў 1802 годзе ў Міцкунах каля Вільні, быў адзіным сынам Апалінарыя, шамбеляна караля Станіслава Аўгуста і Мар'яны з Сямашак. Аддадзены ў павятовую Ковенскую школу, закончыў яе за год да таго, як там пачаў працаваць Адам Міцкевіч. Пасля школы шаснаццацігадовы, пільны, здольны, інтэлігентны і амбітны хлопец паступіў у Віленскі ўніверсітэт на медычны факультэт. Такой была воля яго бацькі, цалкам нязгодная з планамі яго сына.

Быў 1818 год. Студэнцтва Мараўскага супала з самым яркім перыядам жыцця Віленскага ўніверсітэта і кульмінацыяй руху філарэтаў сярод моладзі. Ён адразу далучыўся да гэтага руху і заслужыў шчырую прыхільнасць і павагу сваіх калег. Працавіты і старанны, не грэбаваў таварыскімі стасункамі, з распасцёртымі абдымкамі сустрэлі яго ў тагачасным віленскім бамондзе. У сваяках меў Радзівілаў, Храпавіцкіх і іншыя вядомыя сем'і таго часу, да таго ж, быў добра выхаваны, моцны і адпаліраваны светам, адзінае дзіця багатага бацькі, з мянушкай "прыгожы Мараўскі", адпаведна, карыстаўся незвычайным поспехам у прыгожай паловы чалавецтва і дасканала ведаў усю Вільню. Яму пашанцавала пазбегнуць трагедыі філарэтаў, бо, відочна, меў магутных заступнікаў. Таму змог спакойна скончыць вучобу, не перастаючы пры гэтым старанна наведваць свецкія салоны і плесці шматлікія любоўныя сувязі. Але з-за заняпаду багацця бацькі не змог паехаць за мяжу, не змог атрымаць і пасаду ва ўніверсітэце. Пасля вучобы некалькі гадоў правёў у вёсцы Устроні ў Трокскім павеце і ў 1827 годзе паехаў у Пецярбург, каб знайсці для сябе працу. Адносіны з бацькам пачалі напружвацца, і дзесьці ў 1839 годзе Мараўскі назаўсёды пераехаў на берагі Нявы, каб распачаць там медыцынскую практыку. Тут ён зблізіўся з асобамі, з якімі ў той час сябраваў Міцкевіч. Асабліва блізкія стасункі склаліся ў яго з домам Шымаеоўскай, цёплае і шчырае сяброўства яднала яго з гаспадыняй дома, узнікла шчырая сімпатыя з яе абедзвюма дочкамі і ён ледзь не ажаніўся з яе сястрой Казімірай. Быў вялікім сябрам Арлоўскага. Свецкі і дасціпны чалавек, ён лёгка зрабіў сабе імя ў вялікім пецярбургскім свеце. Дзякуючы пратэкцыі міністра ўнутраных спраў, а таксама сваім выключным якасцям, дасягнуў высокага становішча ў афіцыйнай іерархіі. У гэтай якасці аб'ездзіў значную частку Расіі, а пасля вяртання ў Пецярбург ў 1833 годзе стаў лекарам дзяржаўнага сакратарыята Польскага каралеўства. Высока цаніўся і быў любімы міністрам Грабоўскім і намеснікам міністра Туркулам.

Па адмысловым дазволе імператара паехаў у Парыж і пазнаёміўся там са шматлікімі выдатнымі асобамі, аднавіў знаёмства з Міцкевічам - як сам распавядаў, высватаў за яго дачку Шыманоўскай Цэліну, якую ведаў яшчэ маладой паненкай у Пецярбургу.

У снежні 1835 года сышоў з пасады лекара, пакінуў прафесію і стаў чыноўнікам заканадаўчай камісіі, якая павінна была перакладаць Збор зводу законаў з рускай на польскую мову. Пасля смерці бацькі пакінуў Пецярбург, сышоў у адстаўку і вярнуўся ва Устронь. "Я збіраюся зачыніцца ў Літве", - пісаў ён аднаму са сваіх знаёмых. Аднак ва Устроні гэты "пустэльнік" акружыў сябе ўсім магчымым камфортам, творамі мастацтва і літаратуры. Заклаў сад, вырошчваў кветкі, гаспадарыў. Ён не хацеў нікога бачыць і аддаваў перавагу працы пісьменніка. І ў Устроні добра распісаўся. Напісаў успаміны пра свае часы ў Вільні, успаміны пра Пецярбург, сатырычныя п'есы, філасофскія, гістарычныя і сацыяльныя разважанні, вершы. Меў талент пісьменніка. Уся спадчына доктара Станіслава Мараўскага сведчыць пра яго па-сапраўднаму незвычайны розум. […]

Толькі аднойчы Мараўскі пакінуў свой дом ва Устроні, калі паехаў у Варшаву, дзе завязаў адносіны з Элеанорай Зяменскай, з якой пасля падтрымліваў ажыўленую перапіску. Таксама займаўся гіпнатызмам, што рабіла яго яшчэ больш арыгінальным і загадкавым для суседзяў.

Самотна пражыў апошнія чатырнаццаць гадоў жыцця. Памёр восенню 1853 года і забраў з сабой у магілу сакрэты сваёй мізантропіі. Пахаваны ў Неманюнах Троцкага павета, у капліцы, якую пабудаваў сам для сябе. Яго маёнтак дастаўся ў спадкі стрыечнаму брату Апалінарыю Мараўскаму, нашчадкі якога і дасюль ім валодаюць.

*[Далей Янкоўскі з захапленнем цытуе фрагменты з успамінаў Мараўскага.]*

***

З успамінаў Мараўскага можна было б чэрпаць і чэрпаць … бо яго старонкі - гэта неверагодная, найцікавейшая калекцыя асоб, і кожная асоба - тыпаж, якім ніяк не магчыма насыціцца. А апісанні часоў філарэтаў не зможа прапусціць ніводзін гісторык!

Апошняя старонка ўспамінаў была напісана Мараўскім у лістападзе 1848 года. У якасці дадаткаў, выдаўцы надрукавалі ў кнізе некалькі дзясяткаў фрагментаў пераважна анекдатычнага зместу, узятых з розных рукапісаў Мараўскага[2]. Кніга мае старанныя і вычарпальныя тлумачэнні, якія значна спрыяюць чытальніку, незнаёмаму з гісторыяй і традыцыямі нашага краю.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

---

[1] Cz. J. [Чэслаў Янкоўскі] Wilno nrzed 1aty 1818-1825 // Slowo. 1925. № 81-82; 1925. № 83; 1925. № 86.

[2] Часткова, гэтыя фрагменты былі выдадзены ў: Teka Wilenska. 1858. № 6.



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Экалагічны, патрыятычны сэнс: Зубрына-бізонавая мазаіка, Арэшка, Кандрусевіч, Стагановіч*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 1-37 (157-194) за 2025 г.)*

**АРЭШКА Аляксей** (Aliaksei Areshka) - ураджэнец вёскі (цяпер аграгарадок) Жарабковічы Ляхавіцкага раёна. Сайт Ляхавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі змясціў яго аўтабіяграфію, надрукаваную ў зборніку "Беларусь-Бельгія" (2002). У ёй ён паведамляе, што з 1957 г. "працаваў у фармацэўтычнай фірме "Labaz" - у яе пошукавым аддзеле (Service de Recherchez) як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку і сінтэзу лякарстваў ад сардэчнасасудзістых захворванняў". Доктар хімічных навук, ён з 1983 г. быў на пенсіі. Жыхар Бруселя ажыццявіў падарожжа па ЗША, большая частка апісання якога прысвечана Паўднёваму Захаду (4 (2-5-ая) з 7 частак, 7 нумароў ньюёркскага "Беларуса"). Ён ужывае прыметнік ад назвы рэгіёна Паўднёвы Захад, але піша не "Паўднёвы Захад", а "паўднёвы Захад".



THE HARWOOD FOUNDATION
OF THE UNIVERSITY OF NEW MEXICO
P.O. Box 766
Taos, New Mexico 87571

August 15, 1990

Ales Simakou
USSR, BSSR, Gomel
5 Microdistrict, 19-78

Dear Ales:

I am sorry to be so long in sending you this material, but I hope it will be helpful to your studies. There is no bibliography on Gaspard as little of significance has been published on him. There is one book, Leon Gaspard by Frank Waters, a collection of stories about the artist.

Perhaps someday you will be able to visit New Mexico. There are significant archives in Taos, Santa Fe and Albuquerque that could keep you busy every minute of your time here. There are also a number of meetings and conferences such as the New Mexico Art History Conference at which many fine scholars gather to exchange information.

My main scholarly interest is in twentieth century New Mexico art, but I pursue other studies as well including the history of the Taos Valley and botany. I have been curator of the Harwood for eleven years with my main job responsibilities being designing and installing art exhibitions and developing an art history archives. I am not sure if Ales is a male or female name -- please forgive my lack of knowledge of your language. Your command of written English is very good.

Americans watch with interest developments in your country. There is a good deal of excitement, I believe, over the possibility of the USSR and the USA becoming partners in the world rather than adversaries. It seems to me that exchanges of cultural and historical material is a good step in that direction.

Sincerely,

David Witt

David Witt
Curator

Harwood Foundation Museum of Taos Art
Ledoux St • Taos • (505) 758-3063

***Letter from David Witt (Museum of Taos Art, Harwood Foundation of the University of New Mexico, Taos, New Mexico) 1990-08-15***

*Аляксей Арэшка*

### З ПАДАРОЖЖА ПА ПАЎДНЁВЫМ ЗАХАДЗЕ (1)

Настаў час вялікага падарожжа на паўднёвы Захад. З Галінаю і Васілём [Русакамі, жыхарамі Самерсэта ў Нью-Джэрсі] даляцелі самалётам да Дэнвера (Каларада), а адтуль нанятым самаходам падаліся ў Санта-Фэ (Новая Мексіка). На колькі дзён гэты маленькі, але як жа прыгожы горад стаўся нашым цэнтрам. Ляжыць ён ля падножжа гор Сангрэ-дэ-Крыста [Sangre de Cristo Mountains, La Sierra de la Sangre de Cristo]. Заснаваны ў пачатку XVII ст. іспанцамі [ў публікацыі Гішпанцамі - з вялікай], горад захаваў і да сённяшняга дня архітэктурны характар іспанскага "Пуэбла" [у "Беларусе" - "Пуэблё"]. Дамы індыянскага стылю, зробленыя з гліны і бэлек рукамі сапраўдных [запраўдных] майстроў. Таксама і кафедры Св. Францішка [Св. Францыска], у якой знаходзіцца ведамая драўляная статуя Дзевы Марыі, "Ла Канкістадора" ["Ля Конквістадора", La Conquistadora], прывезеная сюды недзе ў XVII стагоддзі. Горад і далей разбудоўваецца ў тым жа стылі, поўны гармоніі і харавства, своеасаблівага чару. Празрыстасць паветра і прыгажосць наваколля спрычыніліся, што горад стаўся рэгіянальным цэнтрам мастацтва і культуры. Палац Губернатараў - найстарэйшы дом у Злучаных Штатах у бесперапынным публічным ужытку. Размешчаны ў Палацы музей адлюстроўвае гісторыю гэтага краю, пачынаючы ад даіспанскага перыяду. Побач - Музей Прыгожага Мастацтва, дзе можна пабачыць, апрача палотнаў, малёваных тутэйшымі мастакамі, і партрэт, выкананы ўраджэнцам Віцебска




***Envelope from Harwood Foundation, University of New Mexico (Taos, New Mexico) 1992-07-24 received 1992-09-18. From David Witt***

